# ВЕЧА-VIEČA





№ 1 (15)

Год III, 1972 — САКАВІК — — MARCH, — Year III, 1972

Беларускі квартальны часапіс Byelorussion Quarterly Magazine

## З Ь М Е С Т



**
*

На мапе на вокладцы абазначана колькасьць, мейсца і год арганізацыі незалежных і залежных урадаў на Беларусі. На мапе „Із Міжнародных Навін" паказаны нацыянальны склад Пакістана, часткова суседніх дзяржаў. Абедзьве мапы апрацаваў др. П. Маркоўскі.

# 25 САКАВІКА

Народны Сакратарыят БНР, як выканаўчы ворган Першага Ўсебеларускага Кангрэсу і прадстаўнікі ад Віленскай Рады, 25 Сакавіка 1918 года, у Менску абвесьцілі Беларусь Незалежнай Дзяржавай. Была выдана **Трэцьцяя Ўстаноўчая Грамата: Год таму назад, народы Беларусі, супольна із народамі Расеі, ськівулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь. Ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ськіваем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое было накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.**

**Ад гэтага часу, Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самы народы Беларусі, у асобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі.**

**На падставе гэтага, трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што за-**

# MARCH 25

On that day in 1918, the executive body of the First Byelorussian Congress and the Byelorussian Council of Wilno in Miensk declared Byelorussia an independent country. It was done at a most diffiicult time for our country. This was when our neighboring countries met in Brest-Litouski on our soil to make a peace among themselves without our people. On March 25, independence and democracy were declared for our people. These ideas were not backed by a constitution or a judicial system that would guarantee that they would serve the people as they were meant to. It should be understood that the time was short to elaborate on ideas which required so much work. Since then, more than a half century has past. The governmental body Rada BNR suffered all kinds of splits and wrong decisions in exile.

After World War II, only one person, Mr. Abramenchyk (who as the testamental president of BNR) with Jesuits from the Marian Order that settled in Paris, was able to increase the numbers of BNR supporters in exile among the Byelorussian refugees in Germany.

At that time, the so called Rada BCR of Whiteruthenische Gebiets Commissariat that was declared and

шы якогась Жыда, на йімя Аквіла,... прышоў да іх. Луцк.: Дзеі, 18:2. Тады нехта на йімя Язэп... прышоў да Пілата. Луцк.: Лука 23:50. Дарма што А. Луцкевіч ня знаў старое мовы нашае, як бачым, стара́я й новая літаратурная мова вялікалітоўская гукаюцца, бо жарала ў іх тое самае — народная мова влл.

(далей будзе)

**Праф. др. Я. Станкевіч**

---

**ЦІ ПЕРАСЛАЛІ ВЫ ГРАШОВУЮ АПЛАТУ ЗА ЧАСАПІС „ВЕЧА"**

---


Радактар: Dr. P. Markouski Editor

Адрыс: 204 State Highway, 18
East Brunswick, N. J. 08816 USA

**Цана 50 ц.** Price 50 ¢

**біває на смерць Беларускі Народ, дзелячы яго зямлю на часткі. На падставе гэтага, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны із заціkаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім перагледзіць тую частку Берасьцейскага Трактату, якая датычыць Беларусі і падпісаць мірную ўмову із усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

**Беларуская Народная Рэспубліка, павінна абняць усе землі дзе жыве і мае лічбовую перавагу Беларускі Народ, як Магілеўшчыну, беларускія часткі Меншчыны, Горадзеншчыны, Віленшчыну, Смаленшчыну, Чарнігаўшчыну і сумежныя часткі суседніх губэрняў заселеных Беларусамы.**

**Беларуская Народная Рэспубліка падцьвярджая ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаноўчай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.**

**Абвяшчаючы аб Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, яе Рада ускладая свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць Беларускаму Народу, у поўнай меры, зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэялы.**

**25 Сакавіка 1918 года, Менск.
Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**

Гэті адважны крок быў зроблены тады калі моцныя дзяр-

supervised by German occupying forces in 1943, was hiding among the DPs in Germany. As soon as political safety was cleared for the DPs in Germany, many former members of the BCR decided to reactivate their Rada as the legal representative of Byelorussia. A political war between Rada BNR and Rada BCR from the former Whiterutenishe Commissariat over this legal representation started then and is still in existance today. After being unsuccessful in the international political arena, a few years ago Rada BCR in exile declared herself resolved. The members and supporters of the former BCR did not change their minds over the validity and legality of the so called "Second Byelorussian Congress" (the only real similarity is the name). The Byelorussian Orthodox Church, liberal organizations and establishments in exile are the grounds for the still continuing war over the legality of the Radas.

Neither political group talks about how it would govern Byelorussia if it had the chance to be in power. Their undesire to reveal their party orientation, the kind of opinions they speak privately, their behaviour and uncooperation in representing our people in the Free World, and the establishment of churches of the same faith according to political groupings explains clearly that for them, March 25th is a cover to grab political power in Byelorussia. They are fascists from top to bottom.

жавы ня лічыліісь із Урадам БНР. Трэцьцяя Ўстаноўчая Грамата маіць у сабе першыя і неабходныя ідэі для народа гэта незалежнасьць — воля Беларускаму Народу ў сваей Незалежнай Дзяржаве. Бяз гэтых ідэй наш народ ніколі ня будзіць роўным сярод роўных, нас заўсёды будуць таптаць, папіхаць. Два словы палітыкаў воля і незалежнасьць не даюць гваранцыі, што гэта так будзе. Канстытуцыя із распрацаванай сыстэмай праўных законаў, у ўсіх галінах народнага жыцьця ёсьць гваранцыя, што воля і незалежнасьць ня будуць надужываными.

БНРаўцам ёсьць той, хто практыкуіць у асабістым і грамадзкім жыцьці прынцыпы волі а не грамдзкія інтрыгі, калябаранцтва для асабістых выгад пад прыкрыўкай „гэта ёсьць палітыка а палітыку трэба разумець". Тэстамэнты не даюць права быць БНРаўцамі, асабліва прэзыдэнтамі, хто толькі на словах уважае волю і незалежнасьць. Трэба ўважаць толькі тыя Беларускія Партыі БНРаўскімі, якія маюць апрацаваныя законы, што гварантуюць канстытуцыю дзе будзіць Воля і Сацыяльнае Права для Беларускага Народа, тады наш народ зразумеіць сэнс незалежнасьці, дый падтрымаюць урад із такіх партый.

Урад БНР 1918 года не апра-

On March 25th, 1918, independence and democracy were given to our people. A half century was enough to work out a constitution and a government system that would explain how to protect our people and country from ideas opposed to those declared on March 25, 1918.

The real ruler of today's Byelorussia is the BSSR government — an executive body of Russian Bolshevics. Established in 1919 in Smolensk as the SSRB (Soviet Socialist Republic of Byelorussia) in opposition to the BNR, this Moscow puppet in the beginning was two times bigger territorially than today's BSSR with Miensk. It is well known that the Russian Bolshevics only in words are international communists — they work only for the Russian people. A paragraph in Soviet Russia's Constitution states that every nation of her empire can be independent if so desired by the people. On the other hand, a free press is not allowed. There is no other party except the Communist Bolshevics. There, criticising the government is prohibited; in the Soviet Empire it is a crime not to agree with the materialistic teachings of Marx and Lenin. How then, can independence be achieved for our people if there is is a crime to think about independence because the MVD will be looking for those who do so?

In exile, Byelorussians can help our nation to be free by teaching our people not to make the same

цаваў ані канстытуцыі, ані законаў да канстытуцыі. -Час і завіруха рэвалюцыі не пазволілі на гэта. Мы бачым, як палітычныя групоўкі на эміграцыі надужываюць Урадам БНР. Недабудуваная хата заўсёды ёсьць няпрытульнай, ёсьць мейсцам непажаданых гасьцей.

Няможна быць БНРаўцам у паглядах да тэрыторыі Беларускага Народа. Неважна які уплыў зрабілі нашыя суседзі на наш народ. Тэрыторыя на якой пражываіць Беларускі Народ ёсьць Беларусь, прыроднае права заабавязваіць усе Беларускія Палітычныя Партыі уважаць за неадемнаю частку нашае дзяржавы, не зважаючы ці гэта магчыма дасягнуць у пэўны пэрыяд гісторыі. Урад БНР 1918 года, ў адносінах да тэрыторыі Беларусі, легальна сябе абнізіў у вачох Беларускага палітычнага сьвету. Эмігранцкая Рада БНР, як знутры так і навонкі ёсьць „непредрешенской", пагэтаму не рэпрэзэнтатуе Ўрад БНР 1918 года.

Тое што рабіў Урад БНР, год пазьней бальшавікі дуплікавалі сваімі зьездамі і ўступкамі, каб умацавацца дый надалей захаваць Расейскую імпэрыю. У сьнежні 1918 года VI „Северо-Западная" абласная партыйная канфэрэнцыя абвесьціла сябе Першым зьездам КП(б)Б. Вынесла пастанову аб межах ССРБ,

mistakes that were made in the past, by exposing the trickery of foreign politicians — especially our neighbors, by establishing political movements in exile that will work out laws that will explain how to establish and protect individual freedom and democracy for our nation. Only then will our peole appreciate and fight for the ideas declared on March 25, 1918.

---

ніжэй падаем выпіску із пратакола:

**1. Основным ядром Белорусской республики считаются губернии Минская, Смоленская, Могилевская, Витебская, Гродненская с частями прилегающих к ним местностей соседних губерний населенных по преимуществу беларуссами. Таковыми признать часть Ковенской губернии Ново Александровского уезда, Вилейский уезд, часть Свенцянского и Ошмянского уездов Виленской губернии, Августовский уезд бывшей Сувальской губернии, Суражский, Мглинский, Стародубский и Новозыбковский уезды Черниговской губернии. Из состава Смоленской губернии могут быть исключены уезды Гжатский, Сычевский, Вяземский и Юхновский, и из Витебской губернии части уездов Двинского, Режицкого, и Лютинского.**

**2. Во всех местах, где граница проходя по части Витебской и**

Виленской губерний, носит спорный характер, вследствие населенности в одинаковой степени несколькими народностями, граница должна быть установлена особыми комисиями, выделяемыми правительствами заинтересованных советских республик.

3. Вся территория Республики в административно-хозяйственном отношении делится на семь районов с названиями, происходящими от их экономических центров, а именно: Минский, Смоленский, Витебский, Могилевский, Гомельский, Гродненский и Барановичский.

4. Республика Белоруссии в административном отношении делится на следующие 7 районов:

| Районы: | Подрайоны: |
| --- | --- |
| 1. Минский | Минский, Борисовский, Вилейский, Свенцянский, Ошмянский, Игуменский, Бобруйский и Слуцкий. |
| 2. Смоленский | Смоленский, Бельский, Духовшинский, Поречский, Дрогобужский, Ельнинский, Краснинский и Рославский. |
| 3. Витебский | Витебский, Велижский, Невельский, Городокский, Себежский, Дрисенский, Демянский, Сененский, Лепельский и Полоцкий. |
| 4. Могилевский | Могилевский, Оршанский, Горецкий, Мстиславский, Быховский, Чауский и Чериковский. |
| 5. Гомельский | Гомельский, Калинковический, Суражский, Мглинский, Стародубский, Рогачевский Речицкий и Мозырский. |
| 6. Гродненский | Гродненский, Лидский, Августовский, Сокольский, Беластоцкий и Волковыский. |
| 7. Барановичский | Барановчский, Слонимский, |

**Пружанскй,**
**Новогрудский,**
**Брестский,**
**Кобринский**
**Пинский.**
**Рогачевский,**

1 студзеня 1919 г., у г. Смаленску бальшавікі абвесьцілі ССРБ. Быў на хутка скляпаны ўрад, каб супрацьставіцца ідэі 25 Сакавіка 1918 года і Ўраду БНР. Дэлегаты гэнага зьезду прыпамінаюць, што межы рэспублікі на мапах ССРБ былі большымі, як у пастанове першага зьезду КП(б)Б. Праўдападобна было зроблена наўмысьля, каб прыцягнуць больш Беларусаў на свой бок. Як вядома межы БНР і межы ССРБ першага зьезду КП(б)Б у асноўным супадаюць. Літбел і БССР у замен ССРБ падцьвердзілі, што бальшавізм быў і ёсьць Расейская нацыянал-марксысцкая партыя г. зн., што палітыку Масква праводзіла і праводзіць у інтэрэсах расейскага народа а не рабочых і сялян СССР, як гэта пісалась у бальшавіцкіх маніфэстах.

У лістападзе 1920 года гэнэрал Булак-Балаховіч выгнаў бальшавікоў із Палесься дый стварыў Урад Беларусі ў г. Мазыры.

У сьнежны 1943 года на тэрыторыі Вайструтэніша камісарыяту, пад нямецкім кантролем была створана БЦР, якая пад канец вайны выконвала БССРаўскую ролю у Новай Эўропе Гітлера. Таксваны другі кангрэс, які адбыўся пад нямецкім наглядам, за два дні перад тым, як савецкія войскі акупавалі г. Менск, кроме назова нічога немаіць супольнага із Першым Усебеларускім Кангрэсам. Калі ў Беларускім камісарыяце рабілась хоць нешта беларускага а гісторыкі і палітыкі разгледаюць, як плюс у Беларускім Вызвольным Руху, то таксваны другі кангрэс із яго урадам БЦР адыйгралі негтыўную роль на працягу апошніх дваццаці год.

Ня гледзячы на тое, што ўжо больш за паўстагоддзя ідэя незалежнай Беларусі пастаўлена праз раду БНР, як адзіны сродак спасеньня для нашага народа, ідэя аднак не пранікла ў розум вялікае колькасьці нашага народа. Беларус і калябарант прадаўжаюць быць сынонімамі для большасьці нашага народа. Выбар акупантаў а не самастойнасьць губілі і губяць наш народ.

Беларуская Палітычная Эміграцыя непатрэбна траціць энэргію і час на групавое змаганьне.

Асабістая Воля быў і ёсьць сон нашага народа, аднак чамусьці не разумеім, што гэта немагчыма дасягнуць бяз незалежнасьці для нацыі і дэмакрацыі для народа. Фашыскія палітычныя групоўкі на эміграцыі

не рэпрэзэнтуюць Беларускі Народ і яго волю.

Хіба гэта сапраўды няма кім замяніць быўшых калябарантаў нямецкіх камісараў, для рэпрэзэнтацыі ў Вольным Сьвеце Беларускі Народ? Беларускі народ на чакаіць павароту быўшых бургомістраў із фашыскімі ідэямі. Як могуць рэпрэзэнтаваць Беларускі Народ палітычныя групоўкі на эміграцыі, якія ня вераць у ідэю 25 Сакавіка — ВОЛЯ!?!?!

Незалежнасьць для Беларусі патрабуе пераўзгадаваньня нацыі калябарантаў і дапасаванцаў у незалежна думаючы народ.

25 Сакавіка ёсьць днём ідэі. Праект ёсьць вельмі скамплікаваны. Нават спрыяючыя ўмовы для незалежнасьці могуць скончыцца для нас правалам а нават трагэдыяй, калі мы не сканцэнтруем усю нашую ўвагу і дзейнасьць сваім нацыянальным недахопам.

---

## *MOSCOW'S 1970 STATISTICS ON THE BYELORUSSIAN POPULATION IN THE SOVIET UNION*

On the outbreak of World War II in 1940, the Byelorussian population in the Soviet Empire was ten million people. In January, 1971 it was estimated at nine million. Of this number, seven million, two hundred ninety thousand (80%) live in BSSR. The rest are: Jews, one hundred forty-eight thousand; Poles, three hundred eightly-three thousand; Ukrainians, one hundred ninety-one thousand; and Russians, nine hundred thirty-eight thousand.

Of the seven million Byelorussians living in BSSR, six million speak the Byelorussion language. Three hundred twenty-eight thousand of the "nonbyelorussians" also speak the Byelorussian language. These are probably the Byelorussians from the northern, southern or eastern territories outside of BSSR that were annexed into the Russian or Ukrainian republics. Those "nonbyelorussians" speak the Byelorussian language because the places they came from they are part of the Byelorussia. It was Moskow's policy to write, in the passports, the nationality as the Kremlin saw fit.

In spite of the fact that the natural increase of Byelorussians is 14% higher than that of the Ukrainian and Russians in their republics, the population of BSSR is decreasing more rapidly than in the other republics of the Soviet Empire.

The Byelorussian youth is transported from BSSR to the north and to Siberia of the Russian and Asian republics. Such action is very dangerous to us for survival as a nation.

Even under Moskow's domination, if the territory of the Byelorussians was unified today, we would have a population of over twenty million. If it was independent for at fifty years, Byelorussia-Greatlitva today would be a nation with close to forty million people.

### *200th "ANNIVERSARY" OF THE OCCUPATION BEGINS BY THE BURNING OF ARCHIVES.*

In the summer of 1970, Moskow's special agents set fire to historical archives in Wilno that stored documents since Moskow started to occupy the territory of Byelorussia-Greatlitva. 1972 will mark the 200th year of our territory changing hands from the Polish kings to the Russian Czars. The "Cleaning" of the barbarious deeds of the Russians and the praising of the occupiers began to burn and destroy the documents that speak for themselves. The same kind of fire wah set in 1964 in Kiev, to the State Archives of Ukraine.

## НАВІНЫ, АГЛЯД ПРЭСЫ - КАМЭНТАРЫ

The Journal, "Vieca" has established its own library at 130 Ainsworth Avenue in East Brunswick, N. J. It will lend Byelorussian books and newspapers to Byelorussians of Central Jersey. An appointment can be made by writing to the above address or by calling 201-249-2255.

***

Рэдакцыя „Веча" арганізавала сваю бібліятэку на 130 Ainsworth Ave., East Brunswick, N. J. Просім усе Беларускія выдавецтвы прысылаць па аднаму нумару: часапісы, газэты, брашуры, кніжкі і г. д. Кошт будзіць аплачаны.

***

На працягу апошніх двух год многа Беларусаў, у Цэнтральнай частцы Н'ю Джэрсі прамовілі затое, каб арганізаваць Беларускую Незалежную Праваслаўную Царкву.

Партыйныя беларускія цэрквы прадаўжаюць і далей быць мейсцам ненавісьці і разладу сярод Беларускай Палітычнай Эмыграцыі. Надзея аб'еднаньня перастала жыць для дэмакратычна думаючых Беларусаў. Там дзе аб'еднаньне было дасягнута (як Бэлэ Менск) яны прыкладаюць усе высілкі каб разваліць дый хоць на руінах панаваць. Толькі паўстаньне дэмакратычных арганізацый, незалежных праваслаўных цэркваў прымусіць задумацца тых хто падтрымоўваіць палітычных садыстаў, які кіруюць беларускім фашызмам. Еднасьць бяз дэмакратычных прынцыпаў ёсьць не-

магчымай. Народ бяз еднасьці ніколі ня будзіць мець посьпеху ці гэта на Бацькаўшчыне, ці на эміграцыі. Дэмакратычнае сужыцьцё на эміграцыі ёсьць неабходнасьць для ўсіх нас! На эміграцыі мы пераканаліся амаль усе, што гэта ёсьць так. Ужо найвышэйшы час для акцыі!

Фарма каля Інгліш Таўн адпавядаіць для Царкоўна Грамадзкага Цэнтру для Беларусаў Спатсвуда, Фрыголда, Трэнтона, Іст Брансвіка, Манро і г. д. За інфармацыяй тэлефануйце 249-2255 альбо пішыце на адрыс рэдактара „Веча".

***

**БЕЛАРУС № 176, 1971 год. „Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, 21 лістапада адзначыў 50 угодкі — залаты юбілей — паэтычнае творчасьці Натальлі Арсеньневай. У час акадэміі старшыня БІНІМ паведаміў, што інстытут мае падрыхтаваны да друку вялікі том выбранае паэзіі Юбіляркі, які пры нагодзе залатых угодкаў, супольнымі натугамі суродзічаў, трэба выдаць".**

Калі грамдзтва можыць дазволіць на такі люксус, то чаму не! Калі-ж трэба рабіць фінансавую натугу то заўсёды трэба запытаць: на што перш выдаваць грошы? Нам усім вядома, што падручнікі для беларускіх школ ёсьць вельмі неабходнымі, аднак іх ніхто не выдаець. Чаму да гэтага часу нявыдадзена Гісторыя, Геаграфія Беларусі? Пры дыскусіі із раднымі эміганцкай БНР выясьнілась, што дзесь у архівах прэіць канстытуцыя эміграндкай БНР. Паказаць гэную канстытуцыю Беларусам заабавязваіць партыйны інстытут БНР, а інтэрпратацыя яе на зарэз-патрэбная. Беларуская граматыка, Беларускі слоўнік праз дзесяць год будзіць немагчыма выдаць, так як тыя, хто можыць апрацаваць сёньня, ня будуць жывымі ў хуткім часе. Гэта сябры гэнага інстытута дзесьці заткнулі Беларуска ангельскі слоўнік. Нават ня лічуць сваім абавязкам вытлумачыцца перад грамадзтвам, як па грошы то да грамадзтва.

Выданьне выбраных твораў Арсеньневай ёсьць прыватныя матывы кіраўніцтва інстытута а не пільна грамадзкая неабходнасьць. Нятолькі кіраўніцтва інстытуту але таксама эміграндкая БНР цікавяцца больш літаратурай чым жыцьцёвай філязофіяй нашага часу, правам, эканомікай.

***

БОЖЫМ ШЛЯХАМ № 120. У. Глыбіны апісываючы свае уражаньні з падарожжа у Палестыну піша: „тры дыяканы абыйшлі увесь храм з панікадзілам". Як гавораць людзі, сьвет вялікі і ўсё можа

быць, аднак усёж хацелася-б пачуць больш падрабязнасьцяў, як напрыклад: якой вялічыні было тое панікадзіла, якой вышыні былі тыя дыяканы і чаму яны абыходзілі сьвятыню з панікадзілам, прыладай яўна не прызначанай да абношаньня, а таксама ці абыходжаньне сьвятыні з панікадзілам замест кадзіла ёсьць нейкай мясцовай асаблівасьцяй ерузалімскай царквы.

**Прыпіска рэдакцыі.** Панікадзілам называецца галоўны мнагасьветнік, што нармальна вісіць пад галоўным купалам царквы і можа мець у вышыню і шырыню па пару мэтраў.

**ГОЛОС РАДЗІМЫ № 3/72** у перадавым артыкуле падае, што у СССР забароненая усялякая прапаганда вайны й гвалту. Што-ж можна аб гэтым сказаць — хіба толькі тое, што у расейцаў ахвота да вайны і гвалту так увайшоўшы у кроў, што яны гатовыя на вайну і гвалт бяз ніякай прапаганды, прыклад хаця-б гвалт над Чэхаславацыяй. Другой прычынай забароны ёсьць тое, што у савецкім слоўніцтве вайна і гвалт называецца вызваленьнем, паданьнем братняй рукі, а гэтыя-ж словы не забароненыя у СССР.

Там жа падана, што у СССР няма прапаганды ненавісьці і варожасьці паміж народамі. Гэта зусім зразумела ,бо першым аб'ектам такой ненавісьці усіх нерасейскіх народаў былі-б расейцы. Каб зьменшыць такую магчымасьць у СССР шырока стасуецца прамываньне мазгоў, якое адбываецца ў рожных мовах, накіраванае на усяленьні сярод усіх нерасейскіх народаў пераконаньня аб выжшасьці расейцаў.

У гэтым самым часопісе, на 6-ай балонцы пішацца пра расейскім наступе, расейскай арміі у 1945 г. Паколькі ведама савецкая не пабудавана на прынцыпе асобных арміяў рожных народаў, дык з гэтага ясна, што пад словамі расейская армія разумеецца армія СССР, якую савецкі часопіс сам азначае, як расейскую. Значыць гінулі усе, а слава для расейцаў. Згадзіцца аднак з напісаным трэба: савецкая армія ёсьць армія расейскай, а ніякай іншай.

**GWIAZDA POLARNA № 6 з 1972 г.,** зьмешчаны пераклад артыкулу Ю. Стукаліча пад загалоўкам Катынь і Хатынь. Артыкул, як наагул артыкулы Стукаліча, напісаны добра, аднак я ня думаю, каб многа чытачаў згадзілася з азначэньнем былога гэнэральнага сэкрэтара Дага Гамэрскільда, як „рыцара духа".

Гэты тытул больш належыцца падуладнаму Гамэрскільда — Бангу Енсэну, які адмовіўся выканаць загад Дага Гамэрскільда аб перадачы спіскаў вугорскіх уцекацоў агульнаму сэкрэтарыяту

Аб'еднаных Народаў, дзе да гэтых сьпіскаў мелі-б доступ савецкія прадстаўнікі.

Банг Енсэн за невыкананьне праўнага загаду быў звольнены Гамэрскільдам з займанай пасады і праз нейкі час быў знойдзены застрэлены на вуліцы Нью-Ерку, а вінаватых і да гэтага часу не знайшлі.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што загінуў Даг Гамэрскільд кіруючы усьмірэньнем Катангі.

Добры урадавец, верны выканаўца загадаў сваіх шэфаў — гэта праўда, але не выглядае, каб меў паняцьце аб рыцарскіх цнотах, хіба што Ю. Стукаліч захацеў-бы паінфармаваць аб гэтых няведамных азнаках ягонага характару.

**УСПАМІНЫ,** кніга напісана нямецкім міністрам за часоў А. Гітлера Альбэртам Шпэрам, у разьдзелі сёмым занатаванае наступнае выказаньне А. Гітлера: „Сягоньня Сібіракі, Беларусы і жыхары стэпаў вядуць вельмі здаровае жыцьцё. Дзеля гэтага яны ёсьць лепш выпасажаныя для далейшага развіцьця і ёсьць на даўжэйшую мэту біялягічна вышэйшыя ад Немцаў".

## ІЗ МІЖНАРОДНЫХ НАВІН

# ПАКІСТАН

Пакістан, як і большасьць азіяцкіх дзяржаваў ёсьць многанацыянальны.

У 1948 годзе многарэлігійная і шматнацыянальная калёнія Англіі Індыя была падзелена на Пакістан і Індыю. Рэлігія і незалежнасьць былі прычынай падзелу. 16 міліёнаў людзей было перасєлена паміж дзьвюма дзяржавамі, больш міліёна было забіта.

Пунджабскі паэта Ікбал, йшчэ да 1948 года, вынайшаў для мусульман Заходняй Індыі назву Пакістан. Назва маіць камбінацыю першых літар і канца назваў большых народаў Заходняга Пакістана. П ад Пунджабскага народа; А ад Усходняга Аўганістана, найбольшая частка Аўгнцаў творацъ ядро Аўганістана; К ад назвы Кашміра; С ад народу Сіндхаў; ТАН канец назвы народа Балуджыстан, меншыя часткі гэтага народу належыць да Ірану і Аўганістану. Усходняя частка Пакістана ёсьць ядром Бенгальскага народа, 1000 кілёмэтраў на ўсход ад цэнтра. Бенгальцаў нябыло у камбінаваным слове Пакістан.




Моўна Бенгальцы належаць да індыйскай групы. Народы Заходняга Пакістана моўна належаць да іранскай, індыйскай груп — індоэўрапэйскай сям'і, а Брагуі належаць да Дравідзкай моўнай сям'і. У далёкай гісторыі Бенгальцы належылі таксама да Дравідзкай сям'і, пазьней былі падбіты арыйцамі. Фізычнай будовай, моўна, культурна Бенгальцаў (Усходні Пакістан) розьніць больш, як 1000 міляў ад іх братоў па рэлігіі ў Заходнім Пакістане.

Пануючай нацыяй у Пакістане ёсьць Пунджабцы, іх мова ёсьць дзяржаўнай, хоць ангельская мова не страціла сваей важнасьці. Першая сталіца Пакістана Карачы была далёка на поўдзень ад Панджабу, на зямлі народу Сіндхі. Пазьней на поўначы Панджабу была пабудавана новая сталіца Ісламабад.

Усходні Пакістан меў 54.501 квадратных мілі із 49 міліёнамі людзей. На паўднёвым усходзе далучана частка тэрыторыі із Бірманскім жыхарствам.

Нацыянальная і эканамічная няроўнасьць, прывілегіі для адных а толькі словы для другіх, змусіліі Бенгальцаў пакінуць дзяржаву паэты Ікбала- — Пакістан.

У сьнежні 1970 года, урад Усходняга Пакістана, амаль аднагалосна прагаласаваў за незалежную дзяржаву — Бенгладэш. Цэнтральны ўрад аб'явіў выбары неважнымі дый выслаў на ўсход войска складзенае із Пунджабцаў. Першым нападам і забіваньнем тысячамі былі студэнты, інтэлігенцыя. 10 міліёнаў бенгальцаў уцякло да Індыі, міліёны былі забітымі.

Індыя не магла быць абыякавай да такой сытуацыі, яна пачала вайну із Пакістанам. Вайна ў Ветнаме, заліцаньне із чырвоным Кітаем былі гваранцыя для Індыі, што ЗША не ўмешаецца ў канфлікт. Вайна скончылась на карысьць Індыі. Дзьве драпежныя імпэрыі—савецкая Расея і чырвоны Кітай, як тыя каршуны пачалі круіцца над новай дабычай для сваіх імпэрый. Бенгальцы, як былі так і засталіся надалей падзеленай нацыяй. Бенгладэш ёсьць частка 120 міліённага Бенгальскага Народа.

Рэлігійныя, сацыяльныя ідэі лучаць людзей часова. Нацыянальная асаблівасьць лучыць людзей назаўсёды.

---

# "А. ВЛАСОВ О НАЦИОНАЛЬНОМ ВОПРОСЕ"

Аўтар артыкула В. Поздняков. „Новое русское слово".

Ня будзем перадрукоўваць увесь артыкул. За выключэньнем моладзі, большасьць Беларусаў у ЗША чытаюць Новое русское слово. Многа нашых людзей папалісь на вудачку расейскай інтэлігенцыі, якая стараецца выбеліць чорную палітыку расейскіх цароў „вождей". Расейская інтэлігенцыя узвальваіць усе пакуты народаў СССР на жыдоў, латышоў дый іншых нацменаў, за якое ёсьць адказнымі расейцы. Новыя „вожди", тыпу Власовых і падобных ім, рашылі абяцанкамі, палітычнымі выкрутасамі, і абкідваньнем бруду на патрыётаў іншых народаў спасьці Расейскую імпэрыю ад распаду дый закончыць сваю брудную палітыку над намі. Машынай прамыўкі мазгоў нашым людзям на эміграцыі ёсьць расейская легальная і нелегальная прэса, царква.

В. Поздняков цытуіць „мудраю" ідэю із прамовы Власова ў 1944 годзе наступна: „В своей речў на открытом собранйй 18 ноября 1944 года в „Ойропа-хаўз", А. А. Власов говорил (Воля на-

рода, 22 ноября 1944 г. № 3/4 на тему „Освободительное движение — воля народа".

**„Проповедуя вольчи законы класовой ненависти, искусственно разбив народы на группы и натравив их одну на другую, большевизм ослабил силы народов России. Понятно поэтому, что попытки народов в дальнейшем свергнуть большевизм не увенчались успехом. Для успеха этой борьбы не было главного-единства всех сил. Без этого единства все народные выступления против большевиков заканчивались безуспешно и только приводили к кровавому избиению тех, кто пробовал поднять знамя борьбы за народное благо".**

Хоць Власова сёньня няма, аднак варта зьвярнуць увагу на гэтую пустую прапаганду, таму што расейцы і далей карыстаюцца ёй. Прапагандысты якія пісалі прамову Власову, замест сказаць проста, што бальшавізм разьбіўшы расейскую імпэрыю на рэспублікі паслабіў сілы народаў Расеі замянілі на такі сказ „искусственно разбив народы на групы и натравив их одна на другую, большевизм ослабил силы народов России". Ужо у гэтым сказе скрываецца брудны замер уласаўшчыны. Нясьмеласьць прамовіць проста была разьлічана каб выкарыстаць і не даць зразумець праўду палітычна няпісьменным нацменам. Якія-ж групы былі ў СССР посьле „Октябрскай" змоўшчыны, 1917 года ў Расеі? У самой камуністычнай партыі ня было пагадненьня пра нацыянальнае пытаньне, ня было пагадненьня пра спосаб правядзеньня калектывізацыі. Вырабілася моцная група Сталіна, якая падтрымоўвала тактыку і традыцыю расейскіх палітыкаў для правядзеньня сваіх камуністычных ідэй. Інакш думачыя былі зьнішчаны як „врагй народа". Беларуская кіруючая эліта камуністаў была зьнішчана, як нацдэмаўшчына (нацыянальная дэмакрацыя). „Вожди" у Крамлі пачалі зьнішчаць рэлігію у такі самы спосаб, як іх папярэднікі цары ўводзілі рэлігію на „Русь". Супольна працаваць на зямлі ў калгасах пад прымусам, завялі сельскую гаспадарку да прыгоннага пэрыяду. Пачалі расхвальваць расейскіх цароў, якія праводзілі сваю палітыку ў нялюдзкі спосаб. Тэрор, стаўся, як адзіны спосаб трымацца пры ўладзе прарасейскай арыентацыі камуністаў. Такім чынам, расейцы былі незадаволенымі посьпехамі гаспадаркі, былі супроць способа ў які зьневажалася рэлігія, але былі вельмі задаволенымі, як узвышаўся расейскі народ. Народы-ж савецкай імпэрыі былі незадаволенымі із усяго. Такім чынам, Сталін із сваей прарасейскай групай камуністў згуртавалі духоўна ўсе нерасейскія народы і вялікую частку расейскага народа у адну групу на барацьбу із бальшавізмам. Вось гэта праўда пра групы.

Падчас Другой Сьветавой Вайны быў найлепшы спосаб зьнішчыць бальшавізм, так як сьпіхнуць расейскі царызм было найлепш падчас Першай Сьветавой Вайны. Расейскі бальшавізм быў і ёсьць у Расеі, у Маскве. Зьнішчыць расейскі бальшавізм найлягчэй самым расейцам. Гэта бяда у вашай хаце, вы знаіце ўсе выходы і ўходы. Падчас вайны насельніцтва маіць аружжа ў сваіх руках, пагэтаму гэта ёсьць найлепшая аказыя. Многія расейцы верацъ у душы, што як зьнікніць бальшавізм у Маскве, яго аўтаматычна ня будзіць на Беларусі, у Таджыкістане, Эстоніі.

Чаму сапраўды цяжка зьнішчыць ня толькі бальшавізм але ўсякую дыктатуру ў Маскве?

1. Народы савецкай імпэрыі ня мелі і амаль не маюць каардынацыйнага цэнтра, аднак супольная праблема іх злучыла духоўна даўно. Маюць фальшываю надзею, што нехта дапаможыць, кіруючысь гуманітарнымі прынцыпамі.

2. Вялічына імпэрыі дый сўровы катроль над насельніцтвам.

3. Хіба найгоршае гэта суровы клімат, вялікі стэпавы прастор; арганізаваць паўстанчую армію, на такой вялікай тэрыторыі, за тры чатыры цёплых месяцы ёсьць амаль немагчыма.

4. Пакорлівасьць расейцаў перад сваім начальствам, хворая псыхіка да нерасейцаў выключаюць магчымасьць супрацоўніцтва із іншымі народамі, а ня нейкая „раздробленасьць".

Што расейцы разумеюць пад „единством"? Адзінства на пакорніцтве ў псыхіцы расейца называецца „единство". Яны хочуць, каб мы адмовілісь прыроднага права ад Бога на сваю культуру, эканоміку, сваё войска. Пад „единой" расейцы разумеюць, што тэрыторыя на якой мы жывом ёсьць іхняй, ёсьць часткай Расеі. Такі заскок у мазгох можыць быць у злодзея, у вар'ята. Адзінства можна дасягнуць тады калі прынцып на якім еднаюцца ёсьць аднолькавы для ўсіх. Народы савецкай імпэрыі жадаюць расейцам таго, што і сабе жадаюць — быць вольным; расейцы вымагаюць пакорніцтва ад нерасейцаў, што нічога супольнага немаіць із „единством". Расейскія палітыкі стараюцца захаваць тэрыторыю дый пазбавіцца нерасейскага элемэнту, асабліва азіятаў. Цары рабілі праз асыміляцыю, праз намаўляньне і пераход у праваслаўе нацменаў; бальшавікі прадаўжаюць праз грубае зьмешваньне, на гэта выкідаецца міліярды рублей, міліёны людзей церпяць духоўна і матар'яльна; салідарысты і падобны зброд расейцаў на эміграцыі маюць больш цёмныя пляны да нерасейскіх народаў — зьнішчыць нас. Так як азіяты ёсьць дамініруючай расай, расейцы не жадаюць

аніякай сумесі із імі. Публічна, у маніфэстах абецаецца адно а пад час нішчэньня сьмірноўкі прамаўляіць праўда.

Расейскія палітыкі добра ведаюць, што расейскі народ спрычыніўся да нешчасьця нерасейскіх народаў, пагэтаму яны пачалі аддзельваць народ і „власть" паасобку. Беларус, няпісьменны Ўзбек прынімаюць гэта за праўду, бо судзяць самы па сабе, зусім не разумеючы, што расеіц радзі „величия" Расеі аддасьць сваё жыцьцё, найлепш гэтаму сьведчыць Другая Сьветавая Вайна, гэта тое чаго многія Беларусы не разумеюць. Фальшывая прыманка „единство" франтавое, войска ў барацьбе із бальшавізмам заводзіла і заводзіць у блуд не аднаго Беларуса. Адной частцы із нас здаецца вельмі проста, што калісьці Власов а сёньня якісьці ўласавец ,як той рыцар становіцца наперад а ўсе астатнія за ім ідуць на Маскву, а як нехта па дарозе адлучыцца на Менск ці Ташкент, такім чынам войска зьменшылася дый стала немагчыма зьнішчыць бальшавізм. Другая частка із нас проста верыць, што арганізатары сапраўды думаюць тое што і гавораць, не разумеючы, што верыць у словы чужой палітыкі гэта ня тое самае, што пазычыць суседу пару грошаў. Як бачым, разьлікі былі і ёсьць на цёмныя масы, якія ў бядзе маглі і могуць па свайму недаразуменьню быць выкарыстанамі. Так ужо здарылася, так можыць узноў здарыцца.

Не забыліся расейскія палітыкі аб тых Беларусах і нацменах якія разумеюць палітыку расейскіх палітыкаў і хваробу расейскага мужыка. „Расчленитель", „сепаратист", і „ненавистнечество" сыпіцца на галовы тых Беларусаў, што любяць свой народ, што разумеюць, як вылечыцца ад той бяды якая пануя над намі гадамі.

Варта прааналізаваць сэнс гэных слоў!

„Рассчленитель". Разьдзеляць цэласьць, асабліва ў грубы спосаб, па расейску называецца „рассчленение". Мова, культура, гісторыя, псыхіка, тэрыторыя на якой пражываіць нацыя складаюць 99% адзінства; акупацыя праз Расею ня ёсьць плюсам а мінусам нашага нацыянальнага адзінства. Далучэньня больш палавіны Беларускай тэрыторыі да РСФСР ёсьць факт „рассчленения". Падзел Беларускай тэрыторыі паміж Польшчай і Расеяй у Рызе быў акт „рассчленения". Спекуляцыя праз Маскву нашай Беласточчынай, Вільняй ёсьць факт „рассчленения".

„Сепаратист", „сепарировать" г. зн. парушыць адзінства. Намаўляньне праваслаўнага Беларуса каб ён сябе лічыў расейцам ёсьць факт „сепаратизма" адзінага народа. Расейцы ёсьць „сепаратисты" таму, што прапаведваюць сваю вышасьць над нерасейцамі.

„Ненавистнечество" маюць толькі расейцы. Яны высьмейваюць мову, культуру, расу народаў расейскай імпэрыі. Намаўляць нявісьменнага Беларуса супроць Беларускага Патрыятызма, прыпісваючы шавінізм, нацыяналізм патрыётам ёсьць факт „ненавистнечаства".

„Единство" расейцаў ёсьць фальшывае і шкоднае для нас. Сапраўднае адзінства ёсьць карыснае; патрыятызм вядзець да адзінства, вядзець да дабра. Праверым на фактах. Стварэньне рэспублік, стварэньне рэспубліканскіх урадаў із мясцовага насельніцтва спасьлі Расейскую іімпэрыю ад распаду. Як толькі Сталін із сваей прарасейскай групай камуністаў пачалі ў рэспубліках наводзіць парадак на расейскі капыл, жыцьцё было поўнасьцю паралізавана. Да сталінска-расейскага ўмешваньня ў справы БССР, Беларусы называлі дыктатуру камуністаў свабодай, беларуская мова сталася ўрадавай мовай у БССР а спроба ужываць яе літаратурна вельмі цешыла сялян; „як гэта прыгожа звучыць калі сялянская мова становіцца панскай".

Перад Другой Сьветавой Вайной маскоўская форма „адзінства" была ў поўным разгары. Масква пачала засылаць у БССР незнаёмых нам Панамарэнкаў, Петровых, Цанавых і т. п. Дзяржаўная беларуская мова пачала выцесьняцца расейскай, мова якой цешыліся сяляне, была зразумелай для вучняў, была заменена ў школах скалечаным жаргонам. А сацыялістычная тэматыка адкінулі зацікаўленьне да такой мовы многіх Беларусаў. Із Беларускай Вайсковай Акругі застаўся толькі назоў; у войску служылі ўзьбекі, кіргізы, украінцы дый іншыя народы; вышэйшае камандаваньне ў большасьці было із расейцаў. Калі-ж пачалася вайна, мы добра памятаем якімі яны былі ваякамі. Як толькі франтавая лінія персунулась на расейскую тэрыторыю тады расейцы сталі ваякамі. Паўтарылася тое самае, што было ў вайне із Наполеонам. У барацьбе із немцамі, савецкае камандваньне на пачатку вайны пачало больш зварачвацца да Белрусаў, у вайне на Беларускай тэрыторыі. Генэрал беларус Чарняхоўскі прайшоў із усходу на захад усю Беларусь дый закончыў свой шлях на берагох Балтыцкага мора. Беларусы ў гісторыі паўстрымалі ад прасоўваньня на захад манголаў, найбольшае войска таго часу. Гэта было магчыма таму, што нас еднала прыроднае адзінства, пра якое тады ніхто сярод Беларусаў не крычаў, як сёньня гэта робяць уласаўцы. Расейцы сёньня, як нацыя адзінства, дапамагаіць ім кантраляваць і эксплатаваць паўсьвета. Як бачым прыроднае адзінства не патрэбна развальваць, заменьваць на фальшывае „единство". Прыроднае

адзінства кожнага народу, на яго тэрыторыі ёсьць найлепшая гваранцыя ў барадзьбе із бальшавізмам. Калі-ж улаўсаўцам будзіць цяжка справіцца у барацьбе із сваім бальшавізмам то Беларусы і іншыя народы дапамогуць сваімі дывізіямі прыкончыць нашага супольнага ворага. Рабіць армію із народаў якія маюць многа розьніц паміж сабою робіць такую армію няздольнай весьці вайну на незнаёмай ёй тэрыторыі, паўстаець канфлікт паміж насельніцтвам і арміяй, наведаць сям'ю салдату ёсьць цяжка а то і немагчыма, што маральна адбіваецца на яго ваяцкую здольнасьць. Прывычка да нацыянальнай кухні робіць многа цяжкасьцей для салдата і войска. Трэба разумець тых, хто кажыць „мая чушка не кушаіць". Трэба разумець беларускага салдата, што ён будзіць лепш галодны, як есьці кумыс. Самае асноўнае маючы сваё нацыянальнае войска із аднаго народа даець найбольшую гваранцыю, што ўласаўшчына не аберніцца ў сталіншчыну.

Варта прыгледзіцца да тых беларусаў якія сёньня ёсьць уласаўцы. Большасьць із іх кажыць, што „аніякай" Беларусі няма, гэта „выдумка" бальшавікоў. Большасьць із іх належыць да расейскіх цэркваў, да расейскіх арганізацый. Для большасьці із іх расейская тэорыя, што кожны меншы народ „павінен" падпарадкавацца мацнейшаму народу ёсьць прызнанае правіла.

Далеи Поздняков перадаець „добрыя" замеры Власова' „Если эти народы свободным изьявлением своей воли пожелают совсем отделиться от России — пусть отделяются." Тоеж самае запісана расейцамі ў бальшавіцкай канстытуцыі. Власов сам прызнаваўся, што „Россия допустила много ошибок, несправедливостей, жестокостей, даже преступлений", хіба-ж зьмешаная армія із розных народаў савецкай імпэрыі і „непредрешенство" ёсьць гварантыя, што Расея ўзноў „несовершит преступлений?"

**П. Цэдрык**

---

## З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ

У навагоднім нумары часапіса „Змагар" адмірал В. Куронскі заклікае у нядзелю 22 красавіка адзначыць „дзень мора". Думка вельмі слушная і ініцыятыву адмірала трэба прывітаць, шкада адно што добрая думка выражана ў непаважнай форме. У пазьнейшых нумарох падыход зрабіўся больш паважны.

Ня трэба толькі у агульную справу уносіць элемэнт разладу, бо ня ўсе Беларусы заглядаюцца прыхільна на усялякія місыянэр-

скія справы, незалежна ад каго місыянэрская акцыя выходзіць і да каго йдзе. Некаторыя думаюць, што кожнае племя мае права жыць у сваім культурным крузе і уважаюць за шкоднае мэханічнае накіданьне ім чужой культуры, выраслай зусім у іншым абставінах і на іншай культурнай базе.

**В. М.**

## У РЭДАКЦЫЮ ЧАСОПІСУ „ВЕЧА"

Я вымушаны даць належнае абгрунтаванае асьвятленьня некаторых ілжывых фактаў хлусьні у лісьце таго-ж Гасп. Станкевіча.

Так 1. У Лютэнзэе, у лягеры ДП Беларусаў ня было, а былі Крывічы, з якімі я нічога супольнага ня меў. Вось адзін з гэных крывічоў нейкі наддзвінскі і накляпаў — быццам у арганізаваным мной канцэрце „усхвалялі генералаў, навет Муравьёва?! Трэба мець нейкую асобную подлую густапсоваю натуру, каб гэткае выдумаць. Я Селях — Качанскі, па матца унук ведамага у часы паўстаньня Каліноўскага, лесьніка у экономіі графа Тышкевіча, у Астрашыцкім Гарадку, 25 верст ад Менску — Грыгорыя Качана. Ад прозьвішча майго дзеда я ўзяў і свой псэвдонім — Качанскі. Вось якая гісторыя. Гэта мой дзед па матцы Качан быў актыўным удзельнікам паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Ён тады лясьнік, праводзіў аддзелы Каліноўскага праз лясныя гушчары, праз таемныя лясныя дарожкі, каб перакінуць іх на другія шляхі із тых дарог, палкія ганчакі Мураўёва ганяліся за Каліноўцамі. А калі яны, невялічкімі іншы раз групамі, вымушаны былі адсіжавацца у гушчарах, то дзед мой Качан дастаўляў ім навет харчы. Гэта было так! За гэта ён апынуўся у сьпіску на шыбеніцу. Але яго адратаваў Праваслаўны (не Уніят) Сьвятар, настаяцель Астрашыцка-Гарадзецкай царквы, парахвіл-айцец Іосіф Салаўевіч. Ён сябраваў з Качанскім-лясьнікам у галіне Пчалаводзтва. Дзед быў практычны пчалавод і дапамагаў аўцу Салаўевічу у наглядзе за пчальмі. Вось а. Салаўевіч даведаўшыся выпадкова аб пагрозе Качану шыбеніцы, у цёмную Лістападаўскую ноч вывез Качана з яго сядзібы Рабрышчаў ды сабе схаваў яго і дапамог прыняць Праваслаўе, бо Качан быў каталік. Салаўевіч выдаў яму старадаўнюю мэтрыку на імя Грыгорыя Качана замест „Францішка Качана" і гэтым захаваў яму жыцьцё. Дык бачыце, як збрахнуў крывіч Наддзвінскі. Я Селях Качанскі „усхваляў" Мураўёва? Трэба-ж выдумаць гэткую пакасьць.

А што да праграмы Канцэрту у Лютэнзее . . . то яна складалася

із расейскіх клясычных песьняў... хор... складаўся выключна із расейцаў-сьпевакоў.

2-е .. я быццам прыехаўшы да Амэрыкі нічога не зрабіў... у адказ на гэта я сабраў із майго архіву шэраг дакумэнтаў і фотоздымкаў.

1. 4 афішы пастановак з 50-59 г.г.
   а. Шчасьлівы Муж — Аляхновіча
   б. Пінская Шляхта
   в. Дажынкі
   г. Канцэрт Беларускага хору зарганізаванага у Саўт Рывару.
2. Фото
   а. Беларуская Капэла у Бакнангу, якая прыехала з Міхельсдорфу, дзе яна была зарганізаваная.
   б. Беларуская капэла ў Амэрыцы, яе выступленьня у фестывалі пры Аб'еднаных нацыях.
   в. Выступленьні капэлы у калледжах.
   г. Выступленьні у сьвяткаваньні 25 сакавіка у Нью-Йорку.
   д. Сьпіс 20 Белар. песьняў насьпяваных на пліткі пад маім кіраўніцтвам — тайже капэлай.
   е. Звыш 10 рэцэнзіяў з газ. Беларускае Слова за г. 1955-59.
3. Грамата і паведамленьне згуртаваньня Беларускіх Ветэранаў аб наданьні мне годнасьці „Ганаровага Вэтэрана"... у 1970 годзе падабраў і зканструяваў 100 Беларускіх песьняў... у Жаўнерскі сьпеўнік.

**Народны артысты Беларусі Вечаслаў Селях-Качанскі**

**ЗАЎВАГА.**

Як вядома на эміграцыі кожны Беларускі часапіс маіць сваю мову. На Захадзе многія газэты практыкуюць у пісьме лякальны дыялект, каб газэта была зразумелай мяйсцовым жыхаром. Беларуская Палітычная Эміграцыя ёсьць зьмесь усіх дыялектаў. Большасьць нашых журналістаў не разумеюць і ня мелі магчымасьцяў навучыцца Беларускай мовы, так як акупанты ў БССР не дазвалялі і не дазваляюць мовазнаўцам разьвіваць Беларускую Мову па дарозе якую яна сабе праклала стагодзьзі таму назад. На эміграцыі Беларускія моваведы партызанюць у такі самы спосаб, як і тыя, што адкрыта прызнаюць не дастатковае знаньне сваей мовы. Дыялекты якія мы ўжываем павінны былі быць цікавымі для Беларускіх мовазнаўцаў, ёсьць над чым пажартаваць для тых хто ў сваей ваколіцы на Бацькаўшчыне ня чуў пэўных слоў ці выразаў. Разьвіваць ненавісьць сярод партыётаў групавога патрыятызма, супраць асобы якая палітычна інакш думаіць, не зважаючы на знаньне яго мовы, ёсьць дзікарства. Цывілзаваныя людзі палагоджваюць свае ўсякія розьніцы ін-

тэлігентнай дыскусіяй а не пляваньнем адзін на другога, тым больш за кулісамі.

Гэта быў адзін із матываў рэдактара „Веча" распачаць друкаваць „З РОДНАЕ МОВЫ" із тым разьлікам, што знатакі Беларускай мовы не із палітычна групавых матываў а для дабра нас ўсіх і нашае мовы прамовяць інтэлігентна і публічна. Спосаб у які пачалі дыскутаваць знатакі Беларускай мовы ня ёсьць пажаданым у будучыні. Із апошняга ліста. сп. Качанскага выдрукавана толькі тое, што ўважалась за патрэбнае ў выясьненьні пэўных фактаў.

## ПАЖАДАНЬНЕ ДЛЯ РЭДАКЦЫІ „ВЕЧА"

Добра было-б каб Ваша зрабіў сход да разглядау зьместу ,,Веча". Такія сходы рэдакцы карысныя, дарма што іх нашы рэдакцы чамусьці ня зычаць.

**Я. Станкевіч**

Дарагія Беларусы, хоць часапіс выдаю я, часапіс ёсьць Ваш, пішыце!!!! Так было напісана ў першым номеры „Веча". Гэты номер часапіса маіць роўна два гады, як выйшаў у сьвет. Гэты першы зварот прадаўжаіць жыць і далей. Калі ласка, пішыне!!!!!

Памятаіце, як Уладыка Васіль і а. Лапіцкі дыскутавалі на маленькім сходзе, пра вялікаю праблему — аб еднаньне беларускіх партыйных праваслаўных цэркваў. Як толькі разыйшліся кроме абвіненьня адзін другога, нічога лепшага няможна было пачуць. Прыпамінаецца мне другі прыклад. Калі не памыляюсь ,на другім годзе жыцьця Бэлэру-Менск быў сход на тэму, як зрабіць аб'еднаньне Беларусам на эміграцыі? Як толькі справа дайшла да рэлігіі, айцец Лапіцкі ўстаў трусычыся, папрасіў каб гэтую справу пакінулі нам ,,сьвятым".

Прышлось мне дыскутаваць гадзінамі. Перакруцяць, перавернуць, зробяць там вінаватым дзе вы зусім не прычым. Йшчэ лепш было. Падлезіць, прывітаіцца, у спосаб падлізы пачнець гутарыць. Разыйшліся падобраму, але падлюга пачала на людзях вас абрабляць. Па нейкім часе вы даведалісь, што із мышы выйшаў слон.

Вось гэта прычыны якія заставілі мяне гутарыць публічна. Можна інакш? Чаму не разгледзіць часапіс ,,Веча" публічна, на балонках прэсы замест маленькага сходзіка. Каліж ёсьць такія, што жадаюць сходзіка, то калі ласка, падайце прозьвішча і дзень калі хочыце спаткацца.

**Рэдактар „Веча"**

# ДА ПАЛІТЫЧНАЕ АРГАНІЗАЦЫІ

Палітычная эміграцыя ня можа ня мець палітычнае арганізацыі. Найзвычайнейшаю ж палітычнаю арганізацаю ды дагэтуль, бадай, найлепшаю ё партыя.

Праўда, некаторыя ня любяць партыяў за зваду памеж партыяў, за несправядлівыя дачыненьні партыі да беспартыйных і да сяброў іншае партыі. Але ўсё гэта бывае, як мы ведаем, і бяз партыяў. Менаваныя заганы партыяў тым меншыя, чым грамадзтва болей выраблена. Прыкладам, іх шмат меней у Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі, чымся ў бытай Расіі або межваеннай Польшчы. Пры большай выйрабленасьці грамадзтва менаваных заганаў можа ня быць. Што ж да камуністычнае партыі, асабліва ў гаспадарствах, у каторых яна мае ўладу, то яе партыю назваць нельга, бо там дыктатура аднаго, што апынуўся на чале партыі. Сталін або Брэжнёў ня розьняцца сваёю ўладаю ад Гітлера.

У партыі не толеруюць, ня церпяць пагуднае (заганнае, калі ўжыць іншага слова) дзейнасьці сваіх сяброў, як гэта бывае ў варганізацах, паўсталых подле іншых прынцыпаў, ідзе (дзе) такая толеранца вядзець да дэмаралізацыі й нацанальнае шкоды. У партыі людзі выйрабляюцца ідэялёгічна, вядзецца палітычнае ўзгадаваньне ў нутры партыі і ў дзеяльнасьці яе навонкі.

Людзі неадукаваныя, каторыя ў жыцьцю культурным могуць быць толькі спажываньнікамі, у партыі добра выйрабляюцца, разьвіваюцца й бываюць дзейнымы ім прыступнейшыя агульныя справы палітычныя, чымся культурныя, ня кажучы праз (пра) навуковыя. Бяз партыі неадукаваныя бываюць пакінены толькі радзіме (сям'і), калі яна ё, або гарэлцы; бяз партыі яны болей а болей стаюцца неграмадзкімі.

З партыяю лёгка паразумецца ў кажнай справе, што асабліва добра ў важных справах неадвалочных. Прымеж тога ў грамадзтве беспартыйным даводзіцца паразумявацца з кажным асобна, што немагчыма.

Тыя, што супроці партыі, ня кажуць, чым партыю можна заступіць, бо, прынамся на эміграцыі, партыі нічым заступіць нельга.

**Рупатлівы**



## АДКАЗ
## НА ЗАЦЕМ ПРАЗ МОВУ ВЯЛІКАЛІТОЎСКАГА (БЕЛАРУСКАГА) ПЕРАКЛАДУ БІБЛІІ

(працяг із № 4 (14) „Веча")

Купала: Пераклад Слова аб палку Ігаравым. Ня дзесяць сакалоў на лебядзіны груд пушчаў. Тм. Галіцы грудам бягуць да вялікага Дону. Тм.

**4.** (узглядам людзёў) толпа. Дз.; Імсьц. crowd of people. Наяжджаюць із грудам махляроў. Гарэцкі: Песьні, 9. Стаяў груд людзёў. Дз. Сядзелі ўсі грудам на ложку. ЗСД. 9. Як вялікі груд глядзеньнікаў разам шугнуў у бок азялелых, што не глядзелі ні на кога й ні на чога каля сябе наўкола, скакуноў, яна схапілася за яго руку. Гарэцкі: Песьні, 74. Грудам сыпяць па вуліцы хлопчыкі-вўчанікі з хатулькамі на плячох. Гарэцкі: Песьні, 64. Пашлі ўсі гаманкім і сьмелым грудам. Тм. 73.

**5.** группа. group.

**6.** труппа. troup, band,

**7.** разряд (класс, группа) group.

**Грудок** -дка — **1.** пам. да „груд" у першых **6**-ёх зн. Пусьціў коні на даліну, сам лёг спаці на грудку. Гсл. На стале ляжаў грудок кнігаў. ЗСД 362. Хоць бы ты ,сынку, схадзіў ідзе грудок падабраў — мы б рэпы пасадзілі. Бельск Смл. (Дсл.). Падбіралі ляды, хвораст, клалі ў грудок. Тм. Сплывуцца сьветленькія балачынкі ў бліскучыя з краёў грудкі. Гарэцкі: Песьні, 67. — **2.** Кружок. У нашых сёлах ёсьць грудкі Беларускае Сялацка-Работніцкае Грамады. Дз. Літаратурны грудок. Скакальны грудок. Музыцкі грудок.

„Стаўся **гук** ізь неба". **гук,** гуку — 1. звук. Гсл.; ПНз.; Ксл. БНсл. sound. Гук пачуў ды туды, а там — чэрці! Смалянцы Чаш. (Ксл.). Пачуў гук ліры. Цэлеш (Ярылаў агонь). Як яго (чараўніка) магілу прабівалі, з магілы гук вышаў, слова карова равець. Смал. п. (Дсл.).

**2.** гул. МГсл.; Гсл.; Нсл. 125. rumbling.

3. бас дуды. Нк.: Дудар, Но. 16. low tone of the bagpipe.

**4.** говор. Нсл. 125. talk Мы чулі гук людзёў. Нсл.

**5.** зов.Гсл. call. У лесе выйду на твой гук. Гсл.

**6.** род. адз. ліку **гука́** — нехолощенный самец свиньи. **Ар.** uncastrated pig. **Пам. гучок.**

7. ( род. адз. **гукá,** праз расьліны). Побег, молодой стебель растения. Young stalk of a plant. З аднаго зярняці было 30 каласоў. — Значыцца, 30 гукоў было. Крэва Аш. На яблыне шмат сухіх гукоў. Ст. Ні воднага сухога гукá не пакінуў — усе абрэзаў. Ст. Гл. пагон.

**„Пагукаўшы** сьвятароў". **Пагукáць** ё скончанаю хормаю да **гукáць.** Затым з гэтага пачну.

**Гукáць** -áю, нск., каго — **1.** звать, кликать. Шсл.; Гсл.; ПНз.; Нсл. 124; Нк.: Старцы, № 73; Буда Кашалёва Гом.; Дсл.; Н. (Чачот, б. 65); БНсл., звать, приглашать. Юрсл. to call, invite. Мае дзяды вясну зялёную гукáлі. Бялевіч. Гукáйце ўсіх маліцца. Нк.: Старцы, 92. Хто ў полю паціханьку гукáе? Там Агатка свае маткі шукае. Хоць гукáй, хоць ня гукáй, ня знойдзеш. Ізь сір. песьні. Нсл. Зьнібее сэрца й да працы гукáе. МГсл., перадмова, **III**. Хто мяне гукáў? Ст. Я гукáў, а ты ня чуў, — заснуў ці што. Юрсл. Гукáй усіх, будзем за стол садзіцца. Тм. Дабраслаў, Божа, Песьні зачынаці, Вясну-красну гукáці. Гарцава Стдб. (Косіч 257). Русалкі сядзелі дый дзеўкі гукáлі. Вадзьвінка Імгл. (Косіч 14). Гукáю дух. Кавыль: Думы, 13. Гукáе Край Забраны у паход. Тм. 61 Вясна прышла, Што чакалі, выглядалі, Да сябе даўно гукáлі. Гарун (в. „Вясна".) Гу-у-жэ-э-віч! Гу-у-жэ-э-віч! — гукáў нехта Лявона. Дудзіцкі (Бацьк., № 1-2/437-438). Гукáць у госьці, да столу — просить, приглашать. Нк.: Очерки, Но. 654. to invite. Ск. **пагукáць** каго — позвать. Гсл.; Шсл.; покликать. Нсл. 438; БНсл. to invite. Пагукáй тату абедаць. Нсл. Трэба бацьку пагукáць, хай ідзець сьнедаць. Ст. Дзпр. **пагукáны** — покликанный. Аднр. **пагукнýць** — скликнуть. Нсл. 438. to call. Пагукні людзёў на помач. Нсл.

**2.** (да каго) взывать, обращаться, призывать к чему-л. Аднр. **агукнýць -нý** — окликнуть. to call upon, to summon. Агукні яшчэ раз! Дсл.

**3.** восклицать to shout. Тавару стане ўсім! гукáлі яны. Няміга (Бацьк. № 16/560). Ск. **выгукнуць** — воскликнуть. А вось, і карчма! — выгукнула Наталя. Ю. Жывіца (Прыйсьце, Но. 1).

**4.** (на каго) кричать на кого-л. to yell at. Вышаў адзін чалавек на двор, дык бача ён, што на пругмені каля кабылы ўвіхаецца воўк. Ён пачáў гукáць на яго. Крывічы Ўселюбск. в. Н. (Демид: Веров. 1896, II, 144). Тужэй сьцягнуў супоню, зьехаўшы з дарогі, каб людзі на яго ня гукáлі. Дудзіцкі (Бацьк. Но. 49-50/435-6).

**5.** аукать. МГсл.; Ар. to cry: а-о-о.

**6.** причитывать по покойникам. Дсл. to lament the dead. Гукáць бацькоў. Дсл.

**Гукнýць,** аднр. — 1. позвать (Дсл.), кликнуть. Гсл.; Шсл.;

Нсл. 125; БНсл., позвать, пригласить. Юрсл. to call, to invite. Бабуся гукне́ць із вуліцы дзяцюкоў. Косіч 57. Гукні́ браценьніка. Нсл. Гукні́ там малацьбітоў, няхай сьнедаць ідуць. Гсл. Гукні́, няхай ідзець есьці. Юрсл. Спраўлялі і́грышча і гукну́лі ўсіх суседзяў. Тм. Мой родны край мяне гукну́ў да працы. Грамыка (верш „Апошняе даруй"). Ідзі, сынку, гукні́ бацьку, хай дамоў ідзе. Ст.-2. воскликнуть. to call **адгука́ць** (пр. адгука́цца, у Нсл. адгуківаць — абмільна), нск. (да **адгукну́ць**) — отзывать от кого, чего-л. Ск. **адгукну́ць** — отозвать. Нсл. 372. to call back. Адгукні́ яго ад гэтае кумпані. Нсл.

**згука́ць,** нск. — сзывать Нсл. 203, скликать. БНсл. Згука́й работнікаў на абед. Нсл. Аднр. **згукну́ць** — созвать, скликать. Нсл. 203. to call together Згукні ўсіх сюды. Нсл. Ск. **згу́каць** — созвать, скликать. Нсл. 203. Дзпр. **згу́каны** — скликанный из разных мест. Нсл.; БНсл. called together from different places Народ згу́каны чакае. Нсл.

**нагу́каваць,** нск., перах. — накликивать. Нсл. 303 to call. Не нагу́куй на сябе бяды, ня ўборзьдзе яе збудзеш. Нсл. 303. Ск **нагу́каць** — накликать.

**Прыгука́ць,** нск., перах. — призывать. to call upon, to summon. Прыгука́лі слуг. Малюкіна Пар. (Дсл.) Аднр. **прыгукну́ць — 1.** созвать. Дсл., призвать. Ён прыгукну́ў сваю радню. Дсл. — **2.** призвать в причитании покойников. Дсл. to call to mourn the dead. Досыць мы пілі́ — прыгукне́м бацькоў. Дсл. Нябось, мой сынку, у цябе шмат памірала — прыгукні́ іх! Ельн. п. (Дсл.). Ск **прыгу́каць** — призвать.

**Выгука́ць,** нск. — вызывать. Гсл.; МГсл.; Нсл. 80 БНсл. to call, to invite. Ідзі выгука́ць людзёў на сход. Госьміра Сян. (Ксл.). Выгука́й, выгукні людзёў на сход. Нсл.· Дсл.; БНсл. Выгукні з хаты Багамола. (Дсл.) Ск. выгукаць — вызвать. Нсл. 80 to call. Ледзь выгукаў яго з карчмы. Нсл. А **гу́каць** (націск на **у**) — говорить беседовать.

**Дзе́йкаць.** Пісараўка Імгл. (Сержп.: Отчет, 9) — распускать слухи. Шсл.; Ксл., разносить молву, поговаривать. Гсл.; Ар.; Нсл. 133. to spread rumor. Дзейкалі, што вайна будзе. Нсл. Дзейкаюць, што будзе вясельле. Кузьміно Сян. (Ксл.). Мала што дзейкаюць людзі. Ст. Ды пра яе ж, пра паненку . . . Ат, можа й ані няпраўда, мала што дзейкаюць людзі. ЗСД. 113. Іншыя дзейкаюць, што й цяпер яна нейдзе жывець, мо' ўв Амэрыццы. Тм. А Хомчын прадзед, як дзейкаюць асмолаўскія бабы, пракляў свайго сына. Гарэцкі: Песьні, 40. Таксама пашыраныя хормы скончаныя, з прыросткамі.

**Дзяву́шчы** -чая. — **1.** холостой. Ксл., старый холостяк или такая же девушка. Нк.: Очерки, Но. 303; Гсл. old bachelor or old maid.

**2.** девственный innocent. Дзявушчым век пражыў. Калышкі Лёз. (Ксл.).

**дзяржа́ўца** -цы — тый, што дзяржыць дзяржаву (владение possession) — управитель государственным имением. Стт. 1529 г., слоўнічак, администратор определенной территории; владетель „дзяржавы", правитель государства (чаще области). Паветамі а дзяржавамі пачалі звацца пераважна часьці вайводзтваў. Яны былі пад загадам намесьнікаў-дзяржаўцаў. Рожков: Рус. ист., 128. Тэрмін „дзяржаўца" найлепей адказуе асобам, што мелі вялікае значаньне ў Юдэі.

„нясіце да **загадніка". Зага́днік — 1.** затейщик. Нсл. 163. cunning fellow Ты вялікі загаднік: таго не хачу, таго дай. Нсл.

**2.** заведующий manager. Тут жылі загаднікі Вялікага князя: намесьнікі, цівуны, пасьлей старасты-дзяржаўцы, прыказьнікі і г. д. Любаўскі: Літ.-Белар. дзяржава (4-х сотлецьце блр. друку, 65).

**3.** распорядитель. manager.

Ужываная некаторымі хорма „загадчык" — зрусыфікаваная суфіксам -чык, каторы ў назовах дзеючых асобаў ё асабліваcьцяй расійскай. Расійскім спакменьнікам на -чик адказуюць белар. на -нік. Гэта ясна й гэта лёгка давесьці,

**„Задлякалася** (у Зацеме абмыльна: „Залякалася") дзяцё Ісус у Ерузаліме". **длякацца** (аднаго караня з „даўгі"), быць ідзе-лень даўжэй чымся надабе — задерживаться, мешкать. Ар.; Міх. to stay somewhere longer than necessary. Дзе яна длякаецца? Ар. Ён длякаецца абы дзень да вечара. Міх. Вы, дзяцюкі, ня длякайцеся: бачыце, сонца нізка, а копы ня зьнесены. Варсл. Ск. **адлякацца** — замешкать, задержаться, промедлить. Войш. Сухалеты любілі, што ў Вішневе не адлякаецца. Войш. Ск. **задлякацца** — замешкаться. Ар.; Міх. Пашоў і задлякаўся. Ар. Задлякаўся з канём. Купала. Ён пашоў, задлякаўся й спазьніўся на вячэру. Міх. Дзе ён там задлякаўся? Ар. (Чорт) карыстае з прыпадку, калі Бог ідзе задлякаецца, і тады стараецца ўварваць у чалавека што-небудзь і на сваю долю. Атраховіч: Блр. прыказкі (Узвышша, 1927 г., Но. 6, б. 142).

„Гірад **улегцы замеў"** — рас. пренебрег, п. zlekceważył, to scorn. Тут паймо выказуецца двума словамі — „улегцы" й „замець". **Улегцы — 1.** — на легке. Шсл.; Ар.; Нсл. 60; Ксл.; Гсл. without luggage. Завёз дровы, а стуль прыехаў улегцы. Стралкі Бэш. (Ксл.).

Улегцы едзеш, падвязі мяне. Нсл. Улегцы й паехалі дамоў, нічога не набралі Ст. Іншыя выбіраліся ўлегцы. ЗСД. 350. Праціўнае **з возам** — з накладам. Ар.

2. легкомысленно относиться к чему-л. **Улегцы мець** — пренебрегать. Пятае, хто бы меў із наўчоных людзей аднаго бяз прычыны ўлегца мець; шостае, навуку Божую ўлегца мець. Кітаб138а 9, 10. Гэтыя мужоў ня слухалі, улегца мелі. Тм. 129б5 Ск. **улегцы замець** — пренебречь. **Замець** — ск. хорма да **мець.**

**засіліць** (віна), ск. хорма да **сіляць — 1.** черпать. Растсл.; ПНз.; Мокрае Клімавіцк. пав. to draw. Ты вялікія кавалкі сіляеш, а на другіх не ўважаеш. Нсл. 519. Ск. **высіліць** — вычерпать, исчерпать. Мокрае. У студні ўсю ваду высілілі. Мокрае.

2. ловить посредством сйлка или уды, удить. Нсл. 579; Мокрае; Гародзькі Вал.; Кацельня Пц. to fish. Сіляць птушкі. Мокрае. Сіляць рыбу вудою. Нсл. 579. Сядзіць вудаль на ляду, Падпер кіям бараду; Сілявачку сіляе, На вячэру зьбірае. Зь песьні. Нсл. 579.

3. зацеплять. Нк.: Старцы, Но. 51. to grapple (Убогі) Сымон сіляе пугаю дзеці дый кладзець іх у торбу. Нк.: Старцы, 84.

4. Закидывать, набрасывать петлю, надевать что-л. посредством петли (гл. Нсл. 184). Ляціце вы, апеканы, на тую душу, Сіляйце ж вы яе пад скабы круччам. Дсл. (пад апекан). Ск. **насіліць** —нацепить, навесить, нанизать. Нк.: Под. пос. № 21. Я у мора зьнясу гора, я й на камень насілю. Тм. бач. 38.

5. нанизывать (Нк.: Старцы, №51) на нитку. Гсл.

6. вешать (за шею на виселице) to hang. Хто віно п'е, душу сваю сіляе. Кітаб 114а4. Ск. **абсіляць** — абвешать. Дсл. to hang much. Абсіляў жонку кралямі. Дсл. **Засіліць,** ск. — *1.* зачерпнуть. Мокрае. to draw Засілю я з крыніцы халоднай вадзіцы. Сяднёў. Засіліў поўную ложку клёцак. Нсл. 184. — **2.** поймать в силок. Растсл., поймать удой. Нсл. 184. to fish. Засіліў вялікую рыбіну. Нсл. — **3.** зацепить. Гсл. — 4. набросить петлю, надеть что-л. посредством петли. Нсл. 184. to hang by noose. Засіліць каня. Нсл. Засіліць торбу на шыю. Нсл. — **5.** повесить (за шею на виселице) to hang.

**засталы** — дзейны дзпр. мін. часу (цяпер яго маюць за прм.) да **застацца** — остаться. Нсл. 186, 218; Шсл.; Ксл. to remain Застаньcя валéй удварэ. Нсл. 218. Нічога з гэтага не засталося. Корзюк. А ты ў калгасе застаўся? Мікаёнак: Каб людзі . . .

2. (ад каго) отстать. Нсл. 186. to remain behind. Застанешся ад нас, адзін будзеш ехаць. Нсл. **засталы — 1.** аставшийся. remaining behind. Што бы меў на сту падводах да места нашага галоўнага емі-

ны, у яго засталае, для продажы паслаці, то можа вадзяной дарогаю адправіці. Стт. 98.

2. остальной. Нсл. 218. remaining. Для ўсякіх межы патомкі засталымі розьніц. Запіс 1563 г. (Пташицкий: Кн. Пузыны, 60) Засталыя грошы сабе вазьмі. Нсл.

3. (ад каго) отсталый remaining behind. Засталых (палоненікаў) стралялі . Віцебск.

**Засталцы** — остальное. Ксл. remaining. Пудоў дзесяць аўсу засею, а засталцы прадам. Заазер'е Сян. (Ксл.). Пасі, Божа, засталцы! Шейн.

**Заставацца, застацца, засталы** вельмі пашырыўшыся. Гэтта адно як прыклад прыведзена. Мясцовыя **аставацца, астацца, асталы** — таго ж зна́чаньня.

**зра́дзіцца** I (ад **рада**) — імся, нск. **зраджацца** -емся, зь кім — совещаясь („радзячыся"), вынести, выносить общее постановление to make a bargain, to settle   Яшчэ едучы на начлег, змовіліся-зрадзіліся йсьці ад коні ў ракі. Гарэцкі: Песьні бач. 24.

**зра́дзіцца** II (аснова тая ж, што ў **зрадзіць, ізрадзіць** — совершить измену to betray) — імся, нск. **зра́джавацца** (або: **зраджа́цца**) — емся, зь кім, на каго — составлять между собой заговор против кого-л. Нсл. 218. to plot conspiracy. Ведаю, што вы ўсі зраджаецеся, зрадзіліся на мяне аднаго. Нсл.

**Зьбе́ршыся,** дзпрсл. да **зьбе́рціся** (Нсл. 195). Усі зьберліся ў вадну хату. Нсл. Хорма нясконч. ё **бе́рціся** (Віцебш.). Такая ж хорма ў **бе́рці** (Віцебш.), **зьбе́рці** (Нсл. **195;** Віцебш.). Зьберлі мы тры рублі. Пшчолка (Бацьк. № 51-52/333-334). Зьберлі трошку гасьцінца. Тм. Рассыпаўшы, трэба зьберці. Нсл. І г. далей. Гэта паказальныя хормы вялікалітоўскія, такія, як **жэрці, дзерці, мерці, перці, церці.**

Побач ізь **берціся,** мін. час **берся, бе́рлася** ё **брацца,** мін. **браўся, бра́лася;** ск. трываньне (прыкладам із прыросткам **з**) гэткае: зьберся, зьбе́рлася (ад зьберціся) і (ад забрацца) забраўся, забра́лася (Кітаб), субраўся, субралася ад субрацца (Суцькава Аш.). Таксама ад **берці-зьберці.** Прыймені або прыростка **со** або **са** няма ў мове влл. з праслав. **съ,** бо яно ў ёй перайшло ў **з. Со (са)** ані няма ў Аль кітабе; як яно луча́е ў памятках стара-літаратурнае мовы влл., дык там пад уплывам царкоўна-слав. правапісу; а калі ў мове цяперашняй, дык пад уплывам расійскім. Але побач із з (зь, із, ізь) бывае часам прыростак **су** (сусім, сусед, субраў), незалежны ад праслав. **съ.**

Магу пацешыць маіх „крытыкаў". Як я ў вартыкуле да „Беларуса" напісаў „берці" ці „зьберці", то рэдактар не прапусьціў гэтага слова; якга, адылі, мушу й засмуціць, бо як у наступным нумару Адамовіч ужыў гэтага слова, то яно засталося, ня было адменена на іншае.

**Зьнецікі** — неожиданно. Нсл. 216, внезапно, врасплох unexpectedly. Соча за ёй гарачым вокам Іванька, каб злавіць яе зьнецікі. ЗСД. 61. Зьнецікі выліпла на сьценах загада нямецкага камэнданта. Тм. 306. Зьнецікі бац яго па зубах. Нсл. Таго ж значаньня: зьнецейку, зьнецеўку, зьнеціку, зьнячэўку. Карэнь той, што ў словах „чакаць", „чукавы".

**Жэрабя** — жребий. Ар.; Шсл.; МГсл.; Купала lot. Аляксандра выцягнуў вялікае жэрабя. Ст. **Кінуць на жэрабя** — бросить жребий. Ар. Кінем на жэрабя, каму сядні вартаваць. Ар. **жарабаваць** — выбирать по жребию. Нк.: Игры, Но. 54.

„Слова **‚жонка'** атрымала значаньне: сужонкі і жанчыны". **жонка** -нкі -нцы; мн. жанкí, жанок, жанкáм, жанкí, жанкáмі – 1. женщина. Гсл.; Шсл.; Стт.; Давід Гарадок на Палесьсю, женщина вообще. Нсл. 158. woman. Калі нэмаз (араб., малітву) кланяецеся, няхай там жанок ня будзе відаць. Кітаб 76а. Мала што жанкі плятуць. Нсл. Мужыку а жонцы за кажны дзень па шасьці грашэй. Стт. 460. Шыла адна жонка позна ўвечары М. (Демид: Верование, 97.). Ідзець ізь іх сяла жонка з капачом у бульбу. Тм. Абступілі жанкі, глуха нешта гýкалі. Капыловіч: Хлеб („Беларус", № 157.) За дротам — колькі жанок. Рамановіч (Конадні, № 2, б. 17). Толькі трое а дзе рэшта? Два цыганы йдуць і жонка. Гарун: Канец Паўлючонка. Я ня чуў ейнага голасу ў сьпевах разам із жанкамі. Юхневіч: Цётка. Гаварылі нешта жанкам. Дудзіцкі (Бацьк. № 49-50/435-436.).

**2.** Мн. л. **жонкі** а **жанкі** (як ідзе, у сярэднім дзялекце **жонкі**) — жена. МГсл.; Ар.; Растсл.; Шсл.; Нсл. 157; Мінькова Ржэўскага пав. (Гринкова IV, 323). wife. На чужыя жанкі ўмысьле глядзеў. Кітаб 43б7. Жонка ляжыць сабе ды ляжыць. Цьверск. губ. (Афанасьев, V, 1914, 98).

Ад „жонка" ё ня толькі прм. „жончын" — женин, але таксама „жаноцкі" — женский, а з гэтага відаць, што „жонка" мае два прыведзеныя значаньні.

Апрача агульнага назову „жонка", асобы жаноцкага стану маюць яшчэ, залежна ад веку й стану, апрычоныя назовы: дзеўка, дзеўка-княгіня або толькі княгіня (у веку, калі выходзяць замуж), заручонка, маладая або княгіня маладая, або ізноў толькі княгіня (на вясельлю) замужка, маладзіца.

Влл. „жана" адказуе рас. супруга, анг. wife, spouse **жана** — жена, супруга. П. Бярэзнае а Зьметняў на Чарнегаўшчыне (Курило: Матеріяли до укр. діялект.). Выяжджае сын Даніла, ды на Русь на вайну; пакідае сын Даніла Кацярыну жану. Зь песьні. Цярэшку бяда стала . . . жана спала. З гульні „Цярэшка " Ветлы назоў а зьвярненьне да жонкі-замужкі: **спадарыня** — госпожа lady, да дзеўкі — **спада́рычна** (-чна а не — -чня, пр. братанічна, сястрычна) — барышня young lady. Ужыванае ў некаторых месцах слова „кабета" — палёнізма. У стг. XVI kobieta было лаянкаю ў Польшчы, там за гэтае слова жанкі крыўдавалі, кажучы: Mężczyźni nas wszelak nazywają i jeszcze kobietami przezywają. Падобна да „жонка" й „муж" мае два значаньні: **муж** — жанаты мужчына і **муж** — выдатны мужчына ў жыцьцю гаспадарстваым (гаспадарствавы муж) або громадзкім. А **мужык** — **1.** супруг. Ст. — **2.** крестьянин.

Да пайма „мужняя жонка" мае „крытыкі" ўжываюць „сужонка". Што гэта можа значыць зразумеем, калі глянем, што значаць іншыя спакменьнікі з прыросткам су: **працаве́нь** да другога працаўня тае самае працы будзе супрацавень; грамадзянін да другога грамадзяніна таго самага гаспадарства, — суграмадзянін; **родзіч** да другога родзіча таго самага народу — суродзіч; два ралейнікі, каторых зямля стыкаецца на супольнай мяжы, будуць сумежнікі, і г. д. Затым і жонка, што з другою жонкаю мае таго самага мужа, будзе ёй сужонкаю, яны ўзглядам адна да аднае будуць сужонкамі. Толькі ў мусульман бываюць сужонкі, ды ня ў нашых.

„Вецер вее, **ідзе** хоча". **ідзе,** прсл. месца — где. Растсл.; Нк.: Дудар, № 2.; Нсл. 224; Дсл. where „Былі злучы дзеля зьвязаньня даданых проказяў месца з галоўнаю — къгде, где, ідзе, ідзе же" . . . Нарысы зь („па") гіст. блр. мовы, Менск 1957, б. 410. „Важна адзначыць, што ў найусходнейшых гаворках мовы блр. (прыкл. у Горацкім р-не Магілеўск. акругі) дагэтуль даволі часта сустракаецца варыянт гэтага (дзе) злуча — **ідзе** (з іде, іде же): Я хачу ведаць, ідзе ты жывеш". Тм. б. 412. Надабе зацеміць, першае, Горацкі раён ня ё найусходнейшым, але толькі ўсходнім; другое, **ідзе** ўжываюць ня толькі ў гэтым раёне, але і ў іншых паветах вялікалітоўскіх; трэйцяе, **ідзе** ня толькі ўжываюць дзеля зьвязаньня даданых проказяў месца з галоўнаю, але і ў іншых даданых проказях; апрача тога ідзе ўжываюць як прыслоўя і ў значаньню часткі. Менаванае відаць із прыводжаных ніжэй прыкладаў.

Прыслоўе. І. пытальнае. Ідзе ты хадзіла? Краснавічы Сураск. на Севершчыне (Сержп.: Отчет, 12). Ідзе ж ты ўплёткі падзяваў? Косіч, 241. А йдзе ж тваe прочкі будуць? Нк.: Сбяги, 8. А ладачкі, лад-

кі, а йдзе былі? Нсл. 264 (пад ладкі). Ідзе ты быў? Парэцк (Дсл. пад болото). Ідзе яно падзелася? Дсл. (пад гаўкала). Ідзе тваё дзяцё? — Накрычэўся, цяпер у калыбцы. Дсл. (пад абадмацца). Людзі на сене былі, а ты йдзе? (пад прадзогаць). Ідзе ты памесьціш грэччыну? Нсл. 744 (пад памясьціць). А йдзе ты быў? Тм. 224. У зрусыфікаванай вяціцка вялікалітоўскай гаворцы: Іде ты был? Каратаяцкі пав. Варанескае губ. (Гринкова, VII, 573).

У пытальна-выгукных проказях, што выказуюць жаль, зьдзіваваньне з прычыны нябыцьця чаго interrogation-exclamation. Ідзе ж мая краса падзелася, ідзе ж мая дзявоцкая? Лужкі Стдб. (Косіч, 245). А йдзе пекла? А ўв Альбрэхтаве. Нсл. 396. (пад пекла). Ідзе гэта было, каб нашага брата шанавалі? Інькава Парэцк. (Дсл.). А дзед-дзядуленька, А йдзе твая бабуленька? Дсл. А йдзе ж ты тады быў, як тваю сьвітку пярун біў? Імсьц. Ой, ідзе расла, ідзе кахалася? Козіна Пуцівельскага пав. (Халанскі, 133). Цяперацька вы й самы йдзіцё, а йдзе вас улетку знайсьці? Нк.: Старцы, 74. А йдзе ж тая ліпіначка, што лыкі дзяруцца? а йдзе ж тая дзяўчыначка, што людзі сьмяюцца? Раст.: Северск., 130.

2. Прсл. месца (часта з часткамі „во", „вун".) when connected with exclamation "vo", "vun" (look!) Вун ідзе гліна. Чычанеўск. вол. Арлоўск. пав. (Будде: Тула-Орел, 55). Ідзе селезень быў, ідзе вутка, і жылі-былі па розных месцах. Каменская вол. Навасільскага пав. Тм., 14). Няма йдзе падзецца. Нсл. 224. Цікуй курыцу, бо яна зьнясецца ня ведама йдзе. Гуліна Сян. (Ксл.).

**3. Неазначанае. Тое ж, што** йдзе колечы, ідзе-лень. somewhere. Ідзе завуць „пуня", а йдзе „клуня". Лужасна Куз. (Ксл.). А йдзе ночанька спаткае, а йдзе дожджайка прамоча. Нк.: Старцы, 78. Харошая дзеўка ня выказуецца: яе абачаць хоць ідзе. Нсл. 83. Калі йдзе чалавек спатыкнецца, там граў музыка, а калі йдзе ён панець (падзець), там пазваны ёсьць ці дудар ці музыка. Нк.: Дудар, 170.

**4. Дачыннае.** Ужываюць як злучнае слова: а) у **даданых проказях месца,** напару (рэдчас) із прыслоўям „там", „туды" у галоўнай проказі. where. А йдзе музыка грае, туды старац ня гляне. Нк.: Дудар. 171. А йдзе дудар грае, старац долькі ня мае. Тм. А йдзе старац пяець, туды музыка ня йдзець. Тм. А йдзе трапачы трапалі, там і грошыкі прапалі. Прык. Нк.: Пособники 147. Ідзе грэх, там і каята. Нсл. 224. А ў нашых аканомаў шаўковыя хусткі; А йдзе былі гаспадары, тама сталі пусткі. Нсл. 538 (пад пусткі). Ідзе гарох, там сем дарог. Прык. праз частае шчыпаньне гароху. Дсл. Асачыце курыцу, ідзе яна нясецца. Нсл. 369. Ідзе бяспаншчына, там кажны сабе пан. Нсл. 23 (пад бяспаншчына). Спадар Бог ска-

заў: „Дожджу, ідзі туды, ідзе цябе ждуць". А ён не пайшоў, ідзе ждуць, а пайшоў, ідзе жнуць. — „Дожджу, ідзі, ідзе цябе просяць". А ён пайшоў туды, ідзе косяць. Смал. п. (Дсл. пад дождж). Не магу я там рабіць, ідзе мой міленькі арэць. Нк.: Част., 30. Ня выкідайся дужа, ідзе ня трэба. Нсл. 83. (пад выкідавацца). Паеж маю куцьцю, йдзе сабакі забрэшуць, туды замуж пайду. Харомск Давід-Гарадоцкага р. (на Палесьсю). Полесье, б. 66.

**б) У дадзеных азначальных проказях** in explanatory sentences. Шукала шэрая перапёлачка свайго гнязьдзечка, ідзе ляжала яе яечка. Чаўпня Стдуб. (Косіч, 26). Набяры кайстрыцы, ідзе лён труць. Доўжа Куз. (Ксл.). Вышла ў тое сяло, ідзе радні, як Мардвы. (Дсл. пад апаланяць). Вось табе пакажу імшарыны, ідзе табе лавіць рыбу. Смал. пав. (Дсл.). Кідайце душу ў вагнёвую раку, ідзе ёсьць агонь-полымя. Нк.: Старцы, 95. Глянуў на тую бярэзу, ідзе дзеўка зь дзяцюком засілілася. (Дсл. пад а -а).

**в) У дадзеных дапаўняльных проказях** complementary sentences. Бача вока, ідзе пячэцца кока. Нсл. 17. (пад бачыць). У зрусыфікаванай вяціцка-вялікалітоўскай гавары: Я скажу, іде он есть, іде ана зарыта. Арханґельскае Зямлянск. пав., Варанеск. губ. (Гринкова, V, 108). Пакажы, іде куры сядять. Арл. (Будде: Тула-Орел, 36).

**4. У значаньню часткі.** Напару з давальным склонам і зь неазначаньнікам дзеяслова дзеля выказаньня смутку, няпэўнасьці ў чым-лень, немагчымасьві чаго - лень. expressing uncertainty, impossibility. Ідзе табе, дурню, пілнаваць? Ром. III. Нешта ж у вас дужа сьцюдзёненька, азызнуць можна. — А йдзе ж гэтую стадолу натопішся. Нк.: Старцы, 92. Ідзе ты многа заробіш з гэтым астатуям. Смал. а Бельскі паветы (Дсл. пад астатуй).

Дык прыслоўе „ідзе" пашырыўшыся ў сярэднім дзялекце, каторы стаў асноваю мовы літаратурнае, у цэлым нарэччу паўночным, у зрусыфікаваных гаворах вяціцкіх, каторыя ў вялізарнай бальшыні належаць да сярэдняга дзялекту вялікалітоўскага, а ў малой частцы дзялекту паўднёва-заходняга. З паўднёва-заходняга дзялекту, зн. зь яго заходняй, нявяціцкай часьці запіс пакуль што ё толькі з Палесься; магчыма, што гэта віна запісаваньнікаў; але **й** у прыслоўю „нейдзе" (не-ідзе) сьветча, што прыслоўе **ідзе** было ў заходнім дзялекце. Ідзе ё прыслоўе **недзе,** там, відаць, сярэдне-язычнае **й** ў **нейдзе** зьлілося із сярэдне-язычным **дзь,** як гэта сталася, прыкладам, у **Жмудзь** із **Жмуйдзь,** у **нябось** із **нябойся**. Вывад гэткі: прсл. **ідзе** цяпер пашырыўшыся на вялізарнай

бальшыні прасьцягу беларускага (каля 9/10), а ўперад яно было на ўсім ім.

**імне, імною** — гл. далавах пад „Фонэтычныя асаблівасьці".

„Я ўчыню вас **лаўбітамі** людзёў". Ад „аральба" ё „аральбіт" (ё й араты), ад „малацьба" — „малацьбіт", ад „сяўба" (дзеяньне) — „сяўбіт" і інш. Дык ад „лаўба" (рыбы), калі няма, то можа быць „лаўбіт", тым больш, што ё назовы дзеючых асобаў на — **біт** на'т тады, як ім не адказуе дзеяньне на — **ба**, прыкл., ё „даражбіт" — хто дорага цануе свой тавар, працу (Ар.), „даўжбіт" — тый, хто мае доўг (Дз.). дарма што няма слоў „даражба", „даўжба"; яны паўсталі пад уплывам іншых слоў на — біт. Не перакажае назову „лаўбіт" тое, што профэсянальны назоў „рыбак", „рыбнік" за лаўбітамі рыбы застанецца. Нельга сказаць; — Учыню вас рыбакамі людзёў, бо слова „рыбак" зьвязáна із словам „рыба", а ня людзі".

**„ляк** абняў яго". ляк — боязнь. Сурынка Слон. п., испуг. Гсл. Нсл. 275. fear, fright.

Трасца падпала зь ляку. Нсл. „ляк" таго ж паходжаньня мае й іншыя значаньні.

**лень:** ідзе-лень, хто, што-лень і пад. У беластоцкіх выданьнях вялікалітоўскіх частку „лень" у злучэньнях із займёнамі й прыслоўямі часта ўжываюць. Яна лепшая, чымся частка „колечы" (хто-колечы, калі-колечы й інш.), бо гэтая можа быць пераробам із польскага "kolwiek". Нельга сумляцца, што „лень" ні скуль не перанятае, а ўзята з народнае мовы влл.

**„Сын людзкі** мае асаблівае значаньне". Калі й мае „асаблівае значаньне", дык гэта ня можа перакажаць таму значаньню, у якім „Сын Людзкі" ўжыты ў нашым перакладзе Новага Закону. Хто калі чуў, каб казалі „чалавечы"? Заўсёды ў нас кажуць „людзкі". Гэтак ё цяпер і гэтак было заўсёды, прыкл.: Чалавек каля лякарстваў людзкіх забаўны. Ліст 1595 г. (Менскія Акты 1, б. 80).

**наймя,** прсл. — по имени by name. У пазьве том іменей воных, а каторае жалуюць, найме (е паказуе, што націск на на-) ня выпісана. Суд. акт 1541. (Барысёнак: Адвакатура, 107). Жалавала перад намі мяшчанка віленская наймя Курчовая Хведзя. Суд. акт. XVI стг. Кн. судн. дел VI а32 (Тм., 17). Вон тых сьветак перад намі ставіў наймя: Стаска Гавенавіча, Міклаша Цюцейкавіча, Сяргея Сянюціча, Сьцепана Станевіча ... Гордз. Ак. XVII, 6. Мы, мужы Любашанцы, з паручэньня ўсяе воласьці Любашанскае ... абралі ясьмо ўсі старцам чалавека воласьці Любашанскае на йmя Сялівона Хласовіча. Шчарбакоў: Нарыс гіст. Беларусі, 101. Знайшоў-